



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

30 жніўня 2019 года №35 (1270)

18+


# 2 верасня ў рэгіёне зладзяць урачыстыя лінейкі да Дня ведаў

старонка 2

На фота Вольгі ЖАРСКАЙ злева направа: Ілля Курсанаў, Леў Жарскі і Арцём Ляшчэвіч.



ISSN 1991–7155




Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/






Якія ідэі для абнаўлення рэчавага рынку прапанавала моладзь старонка 3

25-гадовага вілейчука знайшлі загінулым у лесе старонка 4

А вы ведалі, што па Вілейцы мог бы хадзіць тралейбус? старонка 21

## Прасілі ляжачых паліцэйскіх і смеццевыя кантэйнеры

ВІЛЕЙКА

З такімі просьбамі вяскоўцы з Селішча звярнуліся да першага намесніка старшыні Вілейскага райвыканкама **Анатоля Завацкага** падчас выязной сустрэчы.

Па словах жыхароў, смеццевых кантэйнераў, якія ёсць, не хапае. І смецце часам сабакі разносяць па вуліцах.

Ляжачыя паліцэйскія, на думку вяскоўцаў, патрэбныя на галоўнай вуліцы. Па ёй дзеці ідуць у школу, а кіроўцы не заўсёды зніжаюць хуткасць.

На сустрэчы першы намеснік старшыні паведаміў, што таварыства «Новая Вілія» плануюць перадаць у кіраванне УП «Малочная праўда» – даччынай структуры ААТ «Тураўскі малочны камбінат». Гэта зробяць для аздараўлення сельгаспрадпрыемства, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прыйшлі маладыя медыкі

МЯДЗЕЛ

15 маладых спецыялістаў-медыкаў сёлета прыйшло на Мядзельшчыну. Сярод іх чатыры доктары і два інтэрны.

У Мядзельскай цэнтральнай раённай бальніцы для іх правялі сустрэчу, дзе пазнаёмілі маладых спецыялістаў з правамі і абавязкамі, распавялі аб ільготах і выплатах, замацавалі за імі спецыялістаў з доследам, якія дапамогуць на першым часе.

14 медыкаў пачалі працаваць і на Смаргоншчыне.

Усе маладыя спецыялісты выпускнікі медкаледжаў і ВНУ, паведамляюць у мясцовых райвыканкамах.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гімназіста ўзнагародзілі прэміяй Спецыяльнага фонду Прэзідэнта

МЯДЗЕЛ

**Паўла Берняка**, вучня Мядзельскай гімназіі-інтэрната, узнагародзілі прэміяй Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў.

Так адзначылі паспяховае выступленне хлопца на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах, дзе Павел атрымаў дыплом III ступені па матэматыцы.

Рыхтавала вучня настаўніца вышэйшай катэгорыі **Алена Самуленкава**.

**Паводле Мядзельскага райвыканкама.**

## Качанава: ні адзін з сацыяльна-эканамічных паказчыкаў не выканалі

ВІЛЕЙКА

Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь **Наталля Качанава** наведала Вілейку. Яна пазнаёмілася з райцэнтрам, а таксама прыняла ўдзел у пасяджэнні раённага выканаўчага камітэта.

Яго тэмай стаў разгляд пытання «Аб сацыяльна-эканамічным развіцці і выкананні бюджэту Вілейскага раёна за першае паўгоддзе 2019 года».

– Тэма, якую абмяркоўваем, – і актуальная, і важная, – сказала Наталля Качанава падчас выступлення. – Без эканомікі не будзе нічога, таму выкананне прагнозных паказчыкаў заўсёды знаходзіцца ў зоне адказнасці мясцовых органаў улады, кіраўнікоў прадпрыемстваў, дэпутацкага корпуса.

Сёння на тэрыторыі Вілейскага раёна працуюць восем прамысловых прадпрыемстваў, на якіх занята больш за дзве тысячы чалавек. Найбуйнейшыя з іх – ААТ «Зеніт-БелОМА», Вілейская мэблевая фабрыка філіяла ЗАТ «Маладзечнамэбля», ААТ «Будднамэбля», ААТ «Вілейскі камбікормавы завод».

Але нават флагманы вытворчасці ў сілу тых ці іншых абставінаў вымушаны былі аслабіць сёлета свае пазіцыі.

У выніку за шэсць месяцаў раён не справіўся з асноўнымі паказчыкамі сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Прыцягненне прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (без уліку запазычанасці прамому інвестару за тавары, работы, паслугі) склала 175,6 долара ЗША пры заданні 300. Экспарт паслуг – 82,6% (запланавана 103,7).

Не выкананы прагнозны паказчык па экспарце тавараў, а таксама заданне па колькасці працаўладкаваных грамадзян на створаныя працоўныя месцы за кошт адкрыцця новых прадпрыемстваў і вытворчасцяў.

– Рэгіён, дзе за шэсць месяцаў не ўдалося справіцца з ніводным прагнозным паказчыкам, – рэдкасць, – сказала Наталля Качанава. – Таму давайце думаць, дзе і як будзем прырастаць. Горад добры, каманда кіраўнікоў маладая, перспектыўная. Самы час мабілізавацца і ўзяцца за працу.

**Паводле БелТА.**



На школьным свяце ў Маладзечне.

# Якія школы сёлета зачыніліся і дзе ў рэгіёне можна вучыцца па-беларуску

**Традыцыйна перад новым навучальным годам мы збіраем навіны з адукацыі рэгіёна. Ці зачыняліся і рэарганізоўваліся ўстановы адукацыі? Што чуваць з беларускамоўнымі класамі ў рэгіёне?**

### Што з навучаннем і выхаваннем па-беларуску?

Сітуацыя з беларускамоўным навучаннем не змянілася ў параўнанні з мінулым годам. Сельскія школы – беларускамоўныя. У гарадскіх вучацца па-руску.

Па словах начальніка аддзела адукацыі Ашмянскага ўпраўлення адукацыі **Святланы Баркоўскай**, адзін беларускамоўны клас ёсць у гарадской школе №2.

– Тут усё пытанне ў жаданні бацькоў, – адзначыла Святлана Мікалаеўна. – Калі б мы атрымалі нават адну заяву на навучанне па-беларуску, знайшлі б магчымасць вучыць гэта дзіця.

У садках рэгіёна найбольш дашкольнікаў выхоўваецца па-беларуску ў Смаргоні. Як распавялі ў аддзеле адукацыі, у горадзе беларускамоўныя групы ёсць у кожным садку. Па-беларуску на Смаргоншчыне выхоўваюць прыкладна трэцюю частку ўсіх дашкольнікаў раёна. Найбольш вядомая беларускамоўная група ў дзіцячым садку №8. Гэта наша брэндавая група, адзначыў начальнік мясцовага ўпраўлення адукацыі **Ігар Шчасны**.

Ва ўсіх садках рэгіёна раз на тыдзень ладзяць беларускамоўны дзень, калі па магчымасці выхавальнікі і выхаванцы размаўляюць на роднай мове.

### Стала менш на дзіцячы садок, рэарганізавалі школы

Сёлета зачыніўся дзіцячы садок у Асіпавічах, што на Вілейшчыне. У сакавіку на сустрэчы райвыканкама з мясцовымі жыхарамі тут абмяркоўвалі закрыццё садка. Тады па спісе ў садку было 12 чалавек, а хадзілі два-тры. Тады ж паабяцалі, што калі садок зачыняць, то наладзяць падвоз дзяцей у суседнія Шылавічы. Школа ў вёсцы зачынілася некалькі год таму.

На вучобу ў Астравец паедуць вучні з вёскі Малі. Комплекс «дзіцячы садок-пачатковая школа» рэарганізавалі ў дзіцячы садок.

У Ашмянах зачыняць школу-інтэрнат. Аднак гэта ўстанова падпарадкоўваецца не раённаму, а абласному ўпраўленню адукацыі.

Сёлета рэарганізавалі вучэбна-педагагічны комплекс «Сыраваткаўскія яслі сад-сярэдняя школа. Цяпер гэта яслі сад-базавая школа. Вучняў 10 і 11 класаў з Сыраватак школьны аўтобус будзе вазіць у вучэбна-педагагічны комплекс у Жодзішкі.

Урачыстыя лінейкі ў школах рэгіёна зладзяць 2 верасня, у панядзелак.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Колькі ў Беларусі сёлета будуць каштаваць школьныя падручнікі

**У 2019/2020 навучальным годзе ў Беларусі па-ранейшаму будзе дзейнічаць адзіная плата за карыстанне падручнікамі і дапаможнікамі для ўсіх вучняў.**

Плата за падручнікі і дапаможнікі для дашкольнікаў складае 0,2 базавыя велічыні – 5,1 рубля, а за камплект падручнікаў па прагранме агульнай сярэдняй адукацыі – 0,5 базавай велічыні, ці 12,75 рубля.

У мінулым навучальным годзе плата складала 4,9 рубля і 12,25 рубля адпаведна.

Нагадаем, з 2018/2019 навучальнага года для ўсіх вучняў увялі аднолькавую плату.

Да гэтага кошт школьных падручнікаў адрозніваўся для вучняў 1-11-х класаў. Плата за карыстанне падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі складала 50% ад кошту камплектаў гэтых падручнікаў.

Да прыкладу, у 2017/2018 навучальным годзе вышэй за ўсё каштавалі падручнікі для вучняў 7-га класа – 40,57 рубля. Дашкольнікі аплачвалі поўны кошт навучальных дапаможнікаў.

Аплаціць за падручнікі трэба да 1 кастрычніка гэтага года. Пры гэтым дзецям са шматдзетных сем'яў прадугледжаная 50-працэнтная зніжка, а школьнікі з сацыяльна неабароненых сем'яў падручнікі атрымаюць бясплатна.

**Паводле tut.by.**


Фота аўтара.

Маладзечанцы разглядаюць макет сцэны, якая можа з'явіцца на тэрыторыі рэчавага рынку ў Маладзечне.

# Кавярні, спартыўныя пляцоўкі, адкрытая кухня, парнік-купал

## Якія ідэі для абнаўлення рэчавага рынку прапанавалі актывісты з Германіі, Расіі і Беларусі

**Шэры, дэпрэсіўны, пусты, нефункцыянальны… Такім убачылі маладзечанскі рэчавы рынак маладыя людзі з Беларусі, Расіі і Германіі. А яшчэ яны прапанавалі свае ідэі, як палепшыць гэту гарадскую прастору.**

МАЛАДЗЕЧНА

### Рынак у Маладзечне ўдзельнікі бачылі ўпершыню

Як распавяла маладзечанка **Ганна Холад**, адна з каардынатараў праекта «Вуліца стрытфуда», маладыя людзі прыехалі ў Маладзечна па еўрапейскай праграме «Эразмус+».

Моладзь з трох краін – актывісты. Нехта займаецца спортам, нехта ладзіць фестывалі, нехта – праектны менеджар.

> Ландшафтным дызайнам займаюцца далёка не ўсе. Але маладых людзей аб'яднала тэма праекта «Мастацтва ў гарадскіх месцах: наноў вынаходзіць і ствараць».

Маладыя людзі – удзельнікі праекта ў межах моладзевага абмену – упершыню пабачылі рэчавы рынак у Маладзечне. Пры падтрымцы архітэктара з Мінскай урбаністычнай платформы **Ілоны Ільяшэвіч** яны распрацавалі ідэі для гэтай прасторы.

Свае задумы актывісты з трох краін прадставілі 23 жніўня.

### Што ж яны прапанавалі?

• Шмат зеляніны. Сёння на рынку – толькі асфальт і бетон. У ідэале ў зялёных зонах могуць ладзіць лекцыі, выставы. Тут жа магчымы невялічкі агародзік і арт-маркет – крама, дзе можна набыць вырабы мясцовых майстроў.

• Празрысты купал на зямлі. Ён можа служыць і своеасаблівым упрыгажэннем, і парніковай зонай, дзе будуць нешта вырошчваць.

• Сцэну на месцы паркоўкі. Тут могуць адбывацца тэатральныя пастаноўкі, канцэрты, кінапрагляды. Лаўкі каля сцэны можна пераносіць і ставіць, як зручна.

• Зоны для адпачынку па ўсёй тэрыторыі – кавярні, рэстараны, клумбы, лаўкі.

• Адкрытая кухня. У гарадскіх прасторах за мяжой ёсць практыка, калі людзі прыходзяць з прадуктамі і гатуюць адразу на вуліцы.

• Ціхая зона для настольных гульняў.

• Навігацыя. Паколькі ў прасторы будзе шмат аб'ектаў, трэба ўказаць, як прайсці да кожнага. Навігацыю можна зрабіць каляровымі стрэлкамі на асфальце.

• Прыбраць шэрую бетонную агароджу. Замяніць яе на такую, якая б адпавядала зонам. Напрыклад, на дзіцячай пляцоўцы зрабіць яркай, у зялёнай зоне – з пляцістых раслін. У ідэале агароджа павінны быць функцыянальнай. Тут можна будзе прысесці, зрабіць кветнікі, а дзятве – памаляваць крэйдай.

> • Спартыўная пляцоўка. Для яе агароджа толькі празрыстая. Каб людзі бачылі, што адбываецца на пляцоўцы і хацелі далучыцца. Летам на пляцоўцы можна катацца на скейце, зімой – на каньках.

• Паркінг. Тут кожнае машынамесца афарміць яркімі фарбамі.

• Галоўны ўваход. Пакінуць той, што ёсць, але ўпрыгожыць пляцістай раслінай.

### Прапановы перададуць мясцовым уладам

На сустрэчы былі маладзечанскія актывісты, а з мясцовых уладаў ніхто прысутнічаць не змог.

> Але, па словах арганізатараў, і кіраўніцтва рынку, і аддзел архітэктуры Маладзечанскага райвыканкама ў курсе творчых пошукаў моладзі.

Самыя цікавыя прапановы, на іх думку, маладзечанскія актывісты перададуць прадстаўнікам мясцовай улады. І магчыма, праз пэўны час мы з вамі не пазнаем рэчавы рынак у Маладзечне.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.08 | 29.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0566 | **2.0797** |
| Еўра | 2.2810 | **2.3016** |
| Злоты, 10 | 5.2417 | **5.2598** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1056 | **3.1234** |
| Грыўня, 100 | 8.1741 | **8.2467** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **21.08** | **28.08** |
| Еўра | 2.2650/2.2850 | **2.2800/2.3100** |
| Долар ЗША | 2.0450/2.0630 | **2.0600/2.0800** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 21.08 | 28.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,39 | **19,39** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **4,20** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,58 | **7,93** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,50 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 3,30 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,00 | **1,60** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 1,45 | **1,45** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **1,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,60 | **1,95** |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,70** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Лісічкі, 500 мл | 1,00 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Перац, 1 кг | 1,60 | **1,40** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 6,50 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | – | **3,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Брусніцы, 500 мл | 1,50 | **1,70** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | **5,40** |
| Дыня, 1 кг | 1,40 | **1,50** |
| Кавун, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Персік, 1 кг | 3,40 | **3,30** |
| Слівы, 1 кг | 2,30 | **–** |
| Чарнасліў, 1 кг | 2,90 | **2,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## На вуліцы ў Маладзечне хуліган беспадстаўна стукнуў мужчыну нагой у грудзі

Жанчына паведаміла ў Маладзечанскі РАУС, што на вуліцы яе знаёмага беспадстаўна ўдарыў невядомы. Аператыўнікі ўстанавілі, што напярэдадні інцыдэнту зламыснік з прыяцелем ужывалі алкаголь у мясцовай піцейнай установе.

Калі фігурант выйшаў на вуліцу, яму нібыта пачуўся гук петарды. Мужчына вырашыў самастойна пакараць хуліганаў. Аднак, абышоўшы будынак вакол, піратэхнікаў так і не знайшоў. Міма ішлі мужчына і жанчына. Зламыснік без якіх-небудзь прычын ударыў 33-гадовага мужчыну нагой у грудзі. У той час сам вярнуўся ў бар. Супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі асобу падазраванага. Ім аказаўся 25-гадовы мясцовы жыхар. Праз некалькі гадзін зламысніка затрымалі дома. Малады чалавек быў нецвярозы.

У дачыненні да фігуранта ўзбудзілі крымінальную справу па ч. 2 арт. 339 КК Рэспублікі Беларусь «Хуліганства». Яму пагражае да шасці гадоў пазбаўлення волі.

Сёлета малады чалавек ужо фігураваў у аператыўных зводках за аналагічнае правапарушэнне. Тады хуліган пашкодзіў плафон ля пад'езда і кінуў яго ў акно.

**Паводле прэс-службы Маладзечанскага РАУС.**

## Пасля застолля ў Алёхнавічах мужчына дэбашырыў, а потым спрабаваў выкрасці залаты ланцужок

Мясцовы 31-гадовы жыхар са сваёй сужытніцай і яе маці зладзілі невялікае застолле. Да іх зайшоў і 60-гадовы мужчына маці сужытніцы. Пасля пэўнай колькасці спіртнога паміж мужчынамі на глебе рэўнасці паўстаў канфлікт.

Госць вырашыў сысці і пайшоў у бок чыгуначнай станцыі. Там жа адбылося чарговае высвятленне адносінаў. Малады чалавек «хапаў за грудкі» апанента. У нейкі момант пажылы мужчына заўважыў, што з яго шыі знік залаты ланцужок. Каб адвесці ад сябе падазрэнне, малады чалавек кінуў ювелірны выраб на падлогу. Усю карціну таго, што адбываецца, бачыла касір станцыі. Жанчына паказала на зламысніка, а ланцужок вярнула законнаму ўладальніку. Пасля чаго ўдзельнікі скандалу пакінулі будынак і разышліся ў розныя бакі.

31-гадовы мужчына вярнуўся дадому і вырашыў паразмаўляць па душах ужо са сваёй дамай, з-за якой разгарэўся скандал. Не абышлося без біцця шыбаў і паламанай мэблі. Жанчына выклікала міліцыю. За сямейна-бытавы скандал мужчыну прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Акрамя таго, дэбашыру давядзецца адказваць перад законам і за замах на рабаванне.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**

## Экс-дырэктара кампаніі, якая праектавала для Беларускай АЭС, асудзілі за хабар

Да васьмі з паловай гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму прыгаварыў суд былога дырэктара прадпрыемства «Белэнергасеткапраект» за хабар у асабліва буйным памеры.

Намеснік генеральнага дырэктара прадпрыемства «Аб'яднанае дыспетчарскае ўпраўленне» атрымаў восем гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пра гэта паведаміла прэс-служба Вярхоўнага суда.

Прысуд у законную сілу яшчэ не ўступіў і можа быць абскарджаны.

– Падазраваны змешчаны ў СІЗА КДБ і дае прызнальныя паказанні, – паведаміў тады КДБ.

**Паводле «Радыё Свабода».**

## Кіроўца з Вілейкі збіў мужчыну ў Асіповіцкім раёне. Пешаход памёр у бальніцы

Інцыдэнт адбыўся 25 жніўня каля дзвюх гадзін ночы на аўтадарозе Мінск-Гомель паблізу вёскі Вайнілава.

Аўтамабіль Ford Mondeo, якім кіраваў жыхар Вілейкі, збіў пешахода, які ад атрыманых траўмаў памёр на месцы. У паведамленні адзначаецца, што кіроўца легкавушкі быў цвярозы. Паводле папярэдняй інфармацыі, пешаход рухаўся па праезнай частцы ў спадарожным кірунку і не быў пазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

**Паводле БелТА.**



Жыхар Вілейкі знік 23 жніўня.

# Скончыў жыццё самагубствам 25-гадовы настаўнік з Вілейкі

**Раніцай 23 жніўня ён паехаў у грыбы ў лес побач з возерам Свір і перастаў выходзіць на сувязь.**

На пошукі сабраліся валанцёры. 25 жніўня ў лесе недалёка ад вёскі Няверавічы (Мядзельскі раён) знайшлі аўтамабіль, пасля і цела хлопца.

Афіцыйны прадстаўнік упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама **Сяргей Басько** распавёў парталу mlyn.by, што, паводле папярэдняй версіі, вілейскі настаўнік скончыў жыццё самагубствам. Праверку па факце гібелі праводзіць Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта.

Загінуламу было 25 гадоў. Апошнія два гады ён працаваў выкладчыкам гісторыі ў Вілейскім каледжы. Цяпер быў у адпачынку, мусіў вярнуцца на працу 30 жніўня.

– Разумны хлопец. Скончыў магістратуру, вучыўся ў аспірантуры БДУ. Для нас гэта шок, ніхто не чакаў такога. Прыкмет, што штосьці не ў парадку, аніякіх не было. Праблем з працай таксама. Арцём меў добрую рэпутацыю, вельмі разумны хлопец, вельмі добры спецыяліст, – кажуць у каледжы.

Хлопец родам з адной з вёсак Мядзельскага раёна, там і па сёння жывуць яго бацькі. У Вілейцы ён жыў адзін у інтэрнаце ад каледжа. Не жанаты, дзяцей не меў.

27 жніўня яго пахавалі.

**Паводле «Нашай Нівы».**

## У Маладзечанскім раёне міліцыянеры знайшлі падпольны самагонны міні-завод

Маладзечанскія праваахоўнікі знайшлі міні-завод па вытворчасці самагонкі ў вёсцы Цівідаўка. Міліцыянеры канфіскавалі 400 літраў брагі і 130 літраў гатовага прадукту.

40-гадовы вясковец размясціў падпольны цэх у хляве. Вытворчы агрэгат усталяваў у аддаленай частцы гаспадарчай пабудовы, на паўметра ніжэй за ўзровень зямлі. Адходы спіртавой вытворчасці выкарыстоўваў на корм жывёле.

Як патлумачыў сам мужчына, гнаў ён самагонку выключна для асабістых патрэб. На дадзены момант праводзіцца праверка. Па яе выніках будзе прынятае прававое рашэнне.

Затрыманы двойчы ў 2017 годзе трапляў у поле зроку праваахоўнікаў за бутлегерства.

Мужчыну пагражае адміністрацыйная адказнасць згодна з арт. 12.43 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Санкцыя прадугледжвае штраф да 30 базавых велічынь з канфіскацыяй прадукцыі і апаратаў для вытворчасці.

**Паводле minobl.mvd.gov.by.**

## У Ільі згарэў гараж разам з машынай

Пра пажар вілейскім выратавальнікам паведамілі 23 жніўня, у пятніцу, каля 12:00. Агонь заўважыў унук гаспадара.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, гарэлі чатыры гаспадарчыя будынкі пад адным дахам. У выніку цалкам згарэлі будыніна з дровамі і гараж з машынай «Аўдзі-80».

Яшчэ два будынкі пацярпелі: згарэлі дахі на лазні і хляве, дзе стаяла свойская жывёла. Жывёлу вывелі самі гаспадары.

– Па папярэдніх дадзеных, пажар пачаўся ў гаражы, – кажа старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзмітры Кляшняк**. – Прычыну пакуль устанаўліваюць. Дакладна вядома, што гэта быў не падпал.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Вілейскія школьніцы разбілі два мабільнікі сваёй аднагодкі. А яе сумачку кінулі пад машыну

Здарэнне адбылося недалёка ад сажалкі ў раёне пятай школы. Як расказаў часовы выканальнік абавязкаў намесніка начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Вілейскага РАУС **Дзмітры Садоўскі**, дзве 12-гадовыя дзяўчынкі купаліся ў сажалцы.

Неўзабаве да вадаёма прыйшлі яшчэ дзве, каб пагладзець на лебедзяў. Першым не спадабаўся візіт аднагодак, яны прагналі дзяўчатак. І тыя пайшлі на іншы бераг сажалкі. Калі школьніцы пасля купання сабраліся дадому, убачылі ровар адной з тых, што прыйшлі пазней. У кошыку на ровары ляжала сумачка. Дзяўчаткі прыхапілі сумачку. Па дарозе дасталі з яе два мабільныя тэлефоны: кнопкавы выкінулі, сэнсарны разбілі, а сумачку кінулі пад машыну.

Пакрыўджаная дзяўчынка расказала пра ўсё маме. Жанчына звярнулася ў міліцыю. Улічваючы, што дзяўчаткі не дасягнулі ўзросту, з якога наступае адказнасць за дадзенае злачынства, у распачынанні крымінальнай справы адмовілі.

І хоць бацькі кампенсавалі шкоду, матэрыялы накіруюць для разгляду на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**


Фота з архіву «РГ».

Віталь Качаткоў лічыць, што шахматы яшчэ не да канца ацэненыя чалавецтвам.

# «Шахматы – унікальны від чалавечай дзейнасці»

## Віталь Качаткоў распавядае пра важнасць інтэлектуальнага віду спорту

**Вядомы маладзечанскі шахматыст, бізнесмен і артыст Віталь Качаткоў разважае пра тое, чаму няма альтэрнатывы шахматам для разумных і дальнабачных бацькоў.**

### Нядаўна выдаў кнігу «Шах і Мат»

Ён выдаў шахматную кнігу зноў без слоў, толькі з разумнымі малюнкамі.

**На пытанне, чаму ў кнізе няма слоў, Віталь адказвае, што «Шах і Мат» дапоўніў і скончыў своеасаблівы трыпціх яго маленькіх задачнікаў.**

Раней ён выдаў кнігі «Мат у адзін ход» і «Тактыка для чэмпіёнаў-пачаткоўцаў».

Маладзечанец прызнаецца, што пакуль няма часу на выкладанне і выпраўленне сітуацыі ў краіне з шахматным ўсенавучам, то дапамагае, як можа. Ён піша кнігі ў дапамогу бацькам, настаўнікам, дзецям. І таксама лічыць, што яны сапраўды дапамагаюць. І, мяркуючы па продажах і запатрабаванасці кніг, так яно і ёсць.

### Кнігі Качаткова ёсць у Еўропе і ў Паўночнай Амерыцы

Віталь Качаткоў кажа, што шахматы, як педагагічная гульня, яшчэ не да канца ацэненыя чалавецтвам. Ён працаваў прыкладна з дваццаццю маладымі шахматыстамі. Цяпер усе яны ўжо даволі дарослыя і паспяховыя людзі. Віталь дапаўняе, што ў гэтым ёсць і роля шахмат. Упэўнены на сто працэнтаў.

– Шляхам простага выкладання я змагу дапамагчы ну, максімум яшчэ дзеткам ста. А калі прадам, напрыклад, тысяч 100 кніг, то значыць, дапамагу ста тысячам, – тлумачыць Качаткоў.

Колькасць прададзеных кніг ужо ідзе на тысячы. Першая кніга «Мат у адзін ход» – перавыдадзеная і падарожнічае ў Расіі, ЗША, Канадзе, Швецыі.

У крамах кнігі-задачнікі каштуюць да пяці рублёў. Гэта танней, чым іх купіць і потым «адксерыць», кажа маладзечанскі шахматыст.

### Задачы з кніг – гэта якасная падрыхтоўка маладых шахматыстаў

У Мінску больш за дзесяць прыватных шахматных школ і каля пяці буйных дзяржаўных школ па шахматах. У асноўным дзяцей прыводзяць туды ў школьным узросце, але многія практыкуюць заняткі з чатырохгадовага ўзросту. Задачнікі Качаткова дапамагаюць настаўнікам арганізаваць простыя аб'ектыўныя заняткі па шахматнай тактыцы.

Па словах Віталя, настаўнікі могуць узяць любую задачу з задачніка «Мат у адзін ход», «Тактыка для чэмпіёнаў-пачаткоўцаў» ці «Шах і Мат», а потым разбіраць яе з дзецьмі. Атрымліваецца 5-10 хвілін добрага, паўнавартаснага, аб'ектыўнага тактычнага ўрока па шахматах. А калі настаўнікі дадуць некалькі задач на дом, а дзеці іх змогуць рашыць, то гэта будзе яшчэ лепш, лічыць Качаткоў.

Віталь распавядае, што шахматы – гэта ўнікальны від чалавечай дзейнасці, які спалучае ў сабе тры складнікі: спорт, навуку і мастацтва.

**Менавіта гэтыя складнікі і развіваюць шахматы: інтэлектуальнае спаборніцтва, асновы навуковай дзейнасці і прывіццё любові да прыгожага.**

Ці ёсць альтэрнатыва шахматам? Віталь Качаткоў наадрэз адказвае – не.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Вілейскія керамісты – у пераможцах конкурсу «Гліняны звон»

ВІЛЕЙКА

Абласное свята-конкурс «Гліняны звон» зладзілі 24 жніўня ў Івянцы.

Вілейскі раён прадставіляў раённы Дом рамёстваў: кіраўнік гуртка для дарослых «Мастацтва керамікі» **Наталля Сідзерчык** і кіраўнік гуртка «Гліняная казка» **Наталля Данілевіч**.

На конкурсе ўдзельніцы прадставілі свае калекцыі керамікі. І за тры гадзіны выканалі новую працу, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.

Па выніках свята Наталля Сідзерчык заняла другое месца, Наталля Данілевіч – трэцяе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На пяць дзён зачыняць пераезды

ВІЛЕЙКА

Два чыгуначныя пераезды зачыняць для аўтамабіляў на пяць дзён у сувязі з рамонтнымі работамі.

Як паведамілі ў Вілейскай ДАІ, чыгуначны пераезд на аўтадарозе Н-8174 (паблізу вёскі Ручавыя) зачыняць ад 9:00 2 верасня да 20:00 6 верасня. У гэтыя ж дні для аўтамабіляў зачыняць і чыгуначны пераезд у Куранцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Ладзяць выставу рэтраровараў

МЯДЗЕЛ

Дзіцячыя і дарослыя ровары 1930-1960-х гадоў выпуску можна пабачыць у Нарацкім цэнтры культуры і вольнага часу.

Усе экспанаты належаць калекцыянеру з Мінска **Андрэю Камоску**. Ровары калекцыянер збіраў чатыры гады. Наведнікам дазваляюць не толькі дакрануцца да экспанатаў, але пакатацца на іх.

Сярод экспанатаў – гродзенскія ровары польскіх часоў, экспартны матацыкл 1964 года.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Ад 25 жніўня ДАІ праводзіць акцыю «Увага! Дзеці»

ДАІ краіны ад 25 жніўня да 5 верасня праводзіць спецыяльнае комплекснае мерапрыемства «Увага! Дзеці».

А 30 жніўня – адзіны Дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Бяспечная дарога ў школу – задача дарослых! ».

Праблема дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму на сённяшні дзень застаецца актуальнай. За сем месяцаў гэтага года ў Мінскай вобласці з удзелам дзяцей зарэгістравана 31 аварыя, у якой адзін непаўнагадовы загінуў і 39 атрымалі траўмы.

На Маладзечаншчыне зарэгістравалі адно ДТЗ з удзелам непаўналетняга роварыста, у якім дзіця атрымала цялесныя пашкоджанні.

2 ліпеня каля 17 гадзін у Маладзечне кіроўца наехаў на 10-гадовага раварыста. Хлопчык выехаў на праезную частку з-за будынка электрашчытавой. У выніку ДТЗ непаўнагадовага шпіталізавалі ў дзіцячую ЦРБ.

У сувязі з заканчэннем летніх канікулаў і пачаткам новага навучальнага года, у мэтах папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей і падлеткаў, ДАІ праводзіць акцыю «Увага! Дзеці». Работнікі ДАІ выступяць у працоўных калектывах, на школьных лінейках.

**Падчас акцыі ДАІ просіць кіроўцаў у светлы час сутак рухацца з уключаным блізкім святлом фар або дзённымі хадавымі агнямі (пры іх наяўнасці), быць вельмі ўважлівымі і асцярожнымі.**

За парушэнне патрабаванняў п.166.9 ПДР у адносінах да кіроўцаў ужываецца адміністрацыйнае спагнанне ў адпаведнасці з ч.3 арт.18.14 КаАП Рэспублікі Беларусь (штраф да дзвюх базавых велічынь) – да 51 рубля.

У ходзе мерапрыемства міліцыянеры і работнікі адукацыі правядуць рэйды па выяўленні парушэнняў ПДР дзецьмі і прыцягненні дарослых да адміністрацыйнай адказнасці па арт.9.4 КаАП Рэспублікі Беларусь.

ДАІ просіць бацькоў прыняць меры, каб не дапусціць няшчасных выпадкаў з дзецьмі, не пакідаць без нагляду на дарозе і быць прыкладам у выкананні правілаў дарожнага руху.

**Сяргей БАРТОШ, ДАІ Маладзечна.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Мазда 323F, 1993 г.в., 1,6 бензін. Т. (8-029) 8610280.*

• Таёта-Карола, 2003 г.в., 1,6 бензін, механіка. Т. (8-029) 5781910, (8-029) 2721674.

• УАЗ-469. Т. (8-029) 3266174.

• Форд-Ф'южн, 2005 г.в., 1,4Б, поўны электрапакет, кандыцыянер, ГУР, у выдатным стане, зварка не патрабуецца, 8 100 рублёў.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі Форд-Эскорт, 1996 г.в., універсал, інжэктар, усе дзверы. Т. (8-033) 3091535.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Аўто. Можна аварыйны! Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

• Матацыклы старыя і запчасткі К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў п. Беразінскае Маладзечанскага раёна. Т. (8-0176) 725959, Вэлком (8-029) 1171154.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1986 г.в., 64/40/9 кв. м, з рамонтам. Тэрмінова! 80 тыс. рублёў, торг. Т. (8-029) 6888111.*

• 3-пакаёвая кватэра. Тэрмінова! Падрабязнасці па тэлефонах (8-029) 6888111, (8-029) 6333777.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом на вываз, 11х10, у аграгарадку Крывічы Мядзельскага раёна. Т. (8-01797)43397.

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.

• Дом у в.Грыцкі Вілейскага раёна, 7 км ад Вілейкі, участак зямлі 0,25 га. Недалёка вадасховішча, лес. Т. (8-029) 3262613.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом, 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8598747.*

• Участак з домам, 15 сотак, у в. Макаўе Вілейскага раёна. Тэрмінова! Нядорага. Т. (8-029) 7771830.*

### КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 6511477.*

### МЯНЯЮ

• 2-пакаёвую кватэру ў Турэц-Баярах на 2-х ці 3-пакаёвую ў Маладзечне з даплатай. Альбо прадам. Т. (8-025) 7894666.

• 3-пакаёвую кватэру агульнай плошчай 69 кв. м. у г. Наваполацку на 2-пакаёвую ў Вілейцы. Т. (8-029) 2922439.*

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*



## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыент. Біялогія. Хімія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, маніտораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Расцёрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліцьё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40 з дакументамі. У камплекце: культыватар, бацвіннезбівалка, адвал, аднавосевы самаробны прычэп. Т. (8-029) 5081355.

**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

• Піяніна «Беларусь», чорнае, у добрым стане. Т. (8-029) 8616784.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова дойная. Т. (8-025) 7894666.

• Парасяты в'етнамскія, 10 тыдняў. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7532247, (8-01771) 23491.

• Цялушка цельная ад высокаўдойнай каровы. Т. (8-0176) 525030, (8-029) 1946909, (8-029) 1275060.*

### ІНШАЕ

• Лодка дзюралевая «Казанка». Т. (8-029) 3266174.

• Станок такарны па дрэве STERN WL 100, 4-хуткасны, даўжыня загатоўкі 1 м, дыяметр 35 см. Планшайба, разцы, новы, 300 рублёў. 2 крэслы мяккія ў выдатным стане, 60 рублёў. Т. МТС (8-029) 8632241.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Кацёл у лазню. Т. 98-029) 8641666.*

• Кнігі на мовах славянскіх народаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Тытан для вады б/у, дровы. Нядорага. Т. (8-01771) 55680, (8-029) 5643523.

• Яблыкі, апад. Т. (8-029) 5694135.

### АДДАМ

• Шчанят (помесь, сярэдняга росту) у клапатлівыя рукі. Т. (8-044) 7438947.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Даярка**.** Усе пытанні па тэлефоне. ІП «Дзве стыхіі» УНП 690644985. Т. (8-029) 1238596.*

# Як жыве на Маладзечаншчыне 90-гадовы Арсень Асіповіч

МАЛАДЗЕЧНА

**Жыве ў Кучках на Маладзечаншчыне Арсень Асіповіч. 90-гадовага вяскоўца нялёгка заспець дома.**

Сыходзячы, Арсень пакідае запіскі: «Я ў садзе», «Арсень за хлеўчыкам», «Я ў Ніны». Ён не быў у афіцыйным шлюбе і сышоўся са сваёй Нінай у 52 гады.



Арсень Асіповіч на ровары, набытым у Маладзечне. Ровар трымае рука сябра – Пятра Дзмітрыевіча Васюты (1929-1961). Здымак зроблены каля 1950 года.

Фота з архіва Арсеня АСІПОВІЧА.

### Школу не скончыў з-за працы на зямлі

**Арсень Васільевіч** нарадзіўся ў тры гадзіны раніцы ў Кучках. Пахрысцілі малога праз месяц у маркаўскай царкве. Хрышчоныя бацькі – **Алена Паўлаўна Міцько** і **Сцяпан Андрэевіч Сівіцкі**.

Пачаў хадзіць у школу ў Кучках. Пасля хадзіў на ўрокі ў Маркава. Вучыўся добра. Скончыў чатыры класы. І мог вучыцца далей.

**Але экзамены здавалі па вясне. Трэба было дапамагаць бацьку парадкаваць зямлю. А зямля Асіповічаў была раскіданая па 20 месцах, «латках». Сеялі яны і пшаніцу, і жыта, і авёс, і лён. Скончыць школу ў Арсеня не атрымалася.**

### Да драбніц памятае пажар, што здарыўся больш за 80 гадоў таму

У Арсеня Васільевіча добрая памяць. Прыгадвае, што 23 мая 1938 года а 11 гадзіне ў Кучках быў пажар. Згарэлі 22 хаты. Засталіся дзве.

Пажар здарыўся праз тое, што адна з кучкаўскіх жанчын пякла хлеб, разгортвала памялом жар і іскры трапілі на падлогу.

Большасць кучкаўскіх мелі польскую страхоўку. Было за што купіць новыя хаты. Іх набывалі з-за Вяллі і з-пад Ушы.

Бацька Арсеня набыў хату ў Вілейскім раёне, у вёсцы Міскавічы, ад гаспадара **Скваркі**. Каб трапіць у Кучкі, хата вандравала на «пароме» – дзве лодкі, змацаваныя разам, і на плытах па Вяллі.

Набылі малатарню і арфу – прыстасаванне, каб чысціць зямлю, гумно з Родзькавічаў. А хлеў – з-за Ушы ад гаспадара **Мартына Яблонскага**.

У Кучках жыла жанчына, якая мела горб на спіне – баба **Наста**. Падчас пажару яна спала. Жанчыну выцягнулі з хаты. Пасля старасты на першай у вёсцы машыне адвёз жанчыну ў бальніцу. Але шнары засталіся ў яе на ўсё жыццё.

### Дзевяць чалавек – у адной хаце

У хаце бацькі жылі баба **Параскева** (памерла ў 1952 годзе), дзед **Мікалай** (памёр у 1934 г.), цётка, дзядзька **Язэп**, бацька, маці, **Волька** (1920–1939), **Ірына** (1927 года нараджэння), **Лёня**, **Валя** (1924 года нараджэння) і Арсень.

**Маленькі Арсень спаў на палку, на сенніку паміж куфрам і скрыняй. А бацькаў брат, дзядзька Язэп, – на куфры на сенніку.**

Перад смерцю бацька Арсеня казаў пра дзядзьку: «Дружы з дзязькам, але ў вялікую дружбу не залазь!». Дзядзька Язэп быў пазашлюбным сынам – байструком.

### Конскі кал – як лекі ад запалення лёгкіх

Па-рознаму лёс складваўся ў сям'і Асіповічаў. Двое дзяцей сышло раней часу: Волька ў 19 гадоў, бо хварэла на сухоты. Лячылася дзесяць дзён у Вільні за сорак злотых. За гэтыя грошы можна было набыць слабенькую карову. Аднак лячэнне не дапамагло. У Волькі ўжо быў хлопец, але падчас службы ў войску ён патануў. Калі і ад чаго памёр брат Лёня, Арсень Васільевіч не памятае, бо «яшчэ не быў на свеце».

І самому дзеду Арсеню выпала шмат хвароб. На Каляды ў 1946-м хварэў на запаленне лёгкіх: тэмпература падымалася да 42 градусаў. Бацькі пасцілкамі адгарадзілі яму ў хаце ізалятар. Прыязджаў з Лебедзева польскі фельчар часоў царскай вайны **Болесь**.

Рабіў націранні. А галоўнымі лекамі былі выціснуты конскі кал. Атрымлівалася вадкасць, падобная да піва. Колькі дакладна ляжаў, Арсень Васільевіч не памятае.

Згадвае, што на Вадохрышча сястра Валя ў хромавых боціках хадзіла ў Лебедзева па асвячоную ваду і націранні і набрала ў боты вады. Такая адліга была, што «вада шумела».

Маці распавядала Арсеню, як ён ляжаў хворы, казаў: «Пусціце мяне дамоў». Так казаў перад смерцю і брат Лёня. Маці думала, што прыйдзе Арсеню канец.

### Здарэнне пад Вострай брамай

Але хлопец ачуняў. Працаваў на спіртзаводзе, быў у войску. Адтуль камісавалі.

Пасля з Кучак часта ездзіў у Вільню па кілбасу, па хлеб, і ў кляштар памаліцца Віленскім пакутнікам.

**Неяк з кляштара ішоў на вакзал праз Вострую браму. А пад ёй на дзеда Арсеня раптоўна выехаў грузавік. Кіроўца разгледзеў знак забароны руху, рэзка павярнуў улева. А прыцэп пакаціўся направа. Машына перакулілася.**

Жанчына, што несла курыцу з базару, трапіла пад машыну. Вакол кроў, разліты бензін. Людзі памерлі. А Арсень застаўся жывым. Думае, таму, што напярэдадні замовіў малебен аб здароўі.

У часы калгасаў Арсень Васільевіч працаваў газавіком. За гэта яго паважалі ў вёсцы.

### У мяне шмат анёлаў

Дзед Арсень мае вялікі сад. 35 год вазіў яблыкі на продаж у Маскву, Рыгу і Загорск (сёння Сергіеў Пасад). Пасля гандляваў на Камароўскім рынку ў Мінску. Ездзіў на аўтобусе. Апошняе падарожжа было летась.

**Не так даўно набыў індыкоў у Радашкавічах. Цяпер яны гуляюць па вальеры, ядуць крапіву з мукой. Збірае і рэжа крапіву Арсень Васільевіч сам.**

Назіраеш за гэтым чалавекам і дзіву даешся: адкуль столькі моцы? На што дзед Арсень адказвае: «У мяне шмат анёлаў».

**Воля ТРУБАЧ, Ганна ШАКЕЛЬ, Маладзечна.**

---

● КАЛЯНДАР

**30 ЖНІЎНЯ**

**1954.** Нарадзіўся **Аляксандр Лукашэнка**, першы Прэзідэнт Беларусі.

**31 ЖНІЎНЯ**

**1432.** Ноччу на 1 верасня князі Жыгімонт Кейстутавіч і Сямён Гальшанскі здзейснілі дзяржаўны пераварот. Замах на вялікага князя Свідрыгайлу. Пачатак грамадзянскай вайны ў ВКЛ.

**1 ВЕРАСНЯ**

**1827.** У Расійскай імперыі забаронена прымаць сялян у вышэйшыя і сярэднія навучальныя ўстановы.

**1939.** Напад нацысцкай Германіі на Польшчу. Пачатак Другой сусветнай вайны.

**2 ВЕРАСНЯ**

**1939.** Вольны горад Данцыг (Гданьск) захоплены нацысцкай Германіяй.

**3 ВЕРАСНЯ**

**1927.** Нарадзіўся **Алесь Адамовіч**, беларускі пісьменнік (пам. 1994).

**1953.** Увайшла ў дзеянне Еўрапейская канвенцыя правоў чалавека.

**1967.** Швецыя перайшла на правабаковы аўтамабільны рух.

**4 ВЕРАСНЯ**

**1937.** Рэктары польскіх ВНУ вызначылі месцы для асобнага сядзення студэнтаў-яўрэяў у аўдыторыях – так званыя «лававыя гета».

**5 ВЕРАСНЯ**

**1950.** Нарадзіўся **Іосіф Залуцкі** (пам. 2018), беларускі вучоны-медык, анколаг. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (2004), доктар медыцынскіх навук (1994), прафесар (2000). Дырэктар Інстытута фізіялогіі НАН Беларусі з 2010 года, а да таго – у НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, куды прыйшоў пасля заканчэння ВНУ ў 1978 годзе і дзе прайшоў шлях да дырэктара (2000–2009). У 2001–2009 гг. галоўны пазаштатны анколаг Міністэрства аховы здароўя РБ. У 1969 скончыў маладзечанскае медвучылішча, дзе атрымаў кваліфікацыю фельчара. Сёлета гэтай установе, раней рэарганізаванай у медкаледж, прысвоенае імя яе выпускніка Іосіфа Залуцкага.



**1984.** Нарадзіўся Рагнед Малахоўскі, беларускі паэт. Скончыў сярэднюю школу ў Мядзеле.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Анхела

**Хочацца сказаць, што яно адназначна ёсць. І мая бабуля па мячы, якая ў свае 83 здзейсніла тры розныя вандроўкі за лета, пагадзілася б дакладна. І ведаеце, жыццё (радаснае, цікавае) на пенсіі мусіць быць. Людзі нямала год адпрацавалі, няважна дзе: дома, на сябе, на дзяржаву або на якую фірму. Заслугоўваюць. У нас жа працуюць да 67-гадовага ўзросту! Мусіць быць. Але рэчаіснасць маем, якую маем, і яна далёка не заўжды адпавядае таму, што ў тэорыі добра. І «залатыя гады» чалавека не беспраблемныя, незалежна ад грамадзянства.**

# Ці ёсць жыццё на пенсіі?

**Кожная краіна мае свае ўласныя праблемы, якія датычацца таксама і пенсіянераў. Мой лёс даў мне шанец зведаць дзве розныя культуры даволі глыбока – іспанскую, натуральна, і беларускую, і ёсць шэраг адрозненняў і падабенстваў, якія могуць любога здзівіць, мяркую.**

Паспрабую патлумачыць вам тыя пункты, якія былі для мяне наймацнейшай неспадзяванкай:

### 1. Узровень адаптацыі гарадоў і вёсак

Спачатку можа падавацца, што такая дробязь зусім не звязаная з пенсіяй, а першая асацыяцыя, якая паўстане са словаспалучэннем «адаптаваны горад», будзе «людзі з інваліднасцю». І гэта, у пэўным сэнсе, правільна: часта здараецца, што людзі з інваліднасцю не могуць шпацыраваць спакойна, уваходзіць у пэўныя будынкі або нават выходзіць з дома без дадатковай дапамогі, бо няма патрэбных для гэтага структур.

Але інваліднасць – не адзіная прычына фізічных абмежаванняў. Калі чалавек старэе, ёсць безліч фактараў, якія ўплываюць на якасць жыцця і, скажам так, пабытавыя здольнасці. Можам зрок страчваць, ногі «ўжо не тыя», стамляемся хутка, могуць развівацца розныя хваробы, якія моцна перашкаджаюць рабіць усё, што рабілі раней. Як кажа мая бабуля (гэтым разам, па кудзелі) – артрыт цябе не заб'е, але і жыць не дасць. Ліфты, пандусы, святлафоры з гукавымі сігналамі... Еўрапейскія стандарты, хочам ці не, да Іспаніі дайшлі (хай і не ўсё ідэальна, вядома). У Беларусі, праўда, штораз лепей з гэтай праблематыкай спраўляемся, але многія старэйшыя будынкі і будоўлі значна ўскладняюць жыццё пенсіянераў.

Таксама, праўда, трэба прымаць пад увагу клімат (у выпадку Беларусі асабліва): зімой снег і лёд з'яўляюцца дадатковай перашкодай для бабуль і дзядуль. І хаця існуюць спосабы даволі апаратыўна чысціць вуліцы, канфлікт чалавека з прыродай – старажытны і легендарны з добрых прычын. З іншага боку, іспанскае лета мае сваю рызыку – людзі сталага ўзросту ці не кожны год паміраюць ад спёкі, што, спадзяюся, у вас, на поўначы, радзей здараецца.

### 2. Розніца ў пенсійным узросце

Гэты пункт мяне моцна здзівіў, калі я стала аналізаваць сітуацыю. Па-першае, я не памятаю час, калі людзі ў Іспаніі выходзілі на пенсію раней за 65. Кажуць, было і такое (60, магчыма?). Цяпер пенсійны ўзрост у нас – 67 гадоў. Зразумела, людзі даўжэй і больш якасна жывуць, чым у мінулыя эпохі, але, у любым выпадку, гэта аб'ектыўна шмат гадоў працы.

Па-другое, да знаёмства з беларускай сітуацыяй я ніколі не бачыла, каб жанчыны выходзілі на пенсію на цэлыя пяць (?) гадоў раней за мужчын. Трэба прызнацца, што мяне асабіста гэта абражала. Нібыта хочуць плаціць жанчынам меншую пенсію і ганяюць раней дадому, або лічаць іх меней здольнымі і «непатрэбнымі» ў 55-58 (маёй маме 58, і яна маладая!).

Потым даведалася, што многія беларускія жанчыны хочуць усё ж мець такую перавагу (добра, я працаголік, што зробіш са мной), і я гэта паважаю, зразумела. Але ўсё ж такі сітуацыя здаецца дзіўнай і ў чымсьці несправядлівай з пункту гледжання дыскрымінацыі (мужчын і жанчын аднолькава, заўважу).

### 3. Варыянты актыўнасці на пенсіі

Вось тут іспанцы малайцы, рэальна. І я не хвалю Іспанію часта, я строгая. Клубы, гурткі па інтарэсах, арганізаваныя вандроўкі (і па Іспаніі, і за мяжу), якасныя ТВ-шоу з дэмаграфічнай групай пенсіянераў. Урокі інфарматыкі, музыкі, гімнастыкі ды чаго захочаш яшчэ. Асобныя мабільныя дадаткі, каб шукаць сабе пару.

Сябры маіх бацькоў, якія нядаўна выходзілі на пенсію, пацвярджаюць, што ў іх цяпер менш «вольнага» часу, чым калі працавалі. І ў добрым сэнсе. Перад пенсіянерамі адкрываюцца новыя магчымасці штодня, усё па добрай цане і адаптавана менавіта да іх патрэб. Як спявае «Океан Ельзи» – «життя починається знов». Сэрвіс дужа якасны, і да самых старэнькіх ставяцца, звычайна, з вялікім разуменнем.

Можа, я памыляюся (і была б вельмі радая памыліцца), але я пакуль што не бачыла ў Беларусі столькі варыянтаў для пенсіянераў. І пенсіі меншыя, і многага дазволіць сабе, на жаль, не могуць.

**Так, лецішча, безумоўна, папулярны занятак (у нас, дарэчы, далёка не настолькі: паняцця «лецішча» няма як такога, і толькі багатыя людзі «маюць землі», збольшага), але ж прыходзіць час, калі пенсіянер занадта слабы, каб працаваць на лецішчы.**

Што потым здараецца? Вось мой добры знаёмы працуе на міжнародным грамадскім аб'яднанні «Узаемаразуменне». Быў праект, у рамках якога пажылыя людзі малявалі, пісалі карціны са свайго жыццёвага досведу і, ведаеце, была бомба! Але гэта з таго, што я разумею, яшчэ не норма. І нават існуе пэўная стыгматызацыя пенсіі/старасці: уласнае жыццё чалавека скончылася, цяпер ён, максімум, даглядае ўнукаў і (вельмі не люблю гэты выраз) «дажывае свой век» і чакае смерці. Так быць не павінна, праўда ж?

### 4. Чаканні

Адваротны бок гэтай манеткі, канешне. У Іспаніі (і ў заходняй Еўропе ўвогуле) пенсіянер павінны быць актыўным, незалежным, мець некалькі хобі і радавацца жыццю па максімуме. Паўсталі нейкія чаканні для людзей, якія, можа, проста хочуць адпачываць. Працаваў усё жыццё – я цяпер не хачу пайсці на заняткі астрафізікі, а спаць, глядзець тэлік і чытаць рэдкую кніжку.

Яшчэ трэба выглядаць добра пасля пенсіі (прэтэнзія і да мужчын, і да жанчын, дарэчы, хаця, відавочна, жаночы стандарт яшчэ вышэйшы): нельга растаўсцець зусім жа, нельга апранацца, «як бабуля мінулага стагоддзя», валасы трэба захоўваць/фарбаваць/модна насіць. Адчапіцеся ж.

Ёсць адчуванне, што ў Беларусі крыху меней звяртаюць увагу на тое, ці чалавек «актыўна» праводзіць пенсію, а гэта мо, й добра.

### 5. Самота: агульная праблема

Мне здаецца, гэта ўсё ж такі глабальна. Нават у краінах, дзе сям'я мае традыцыйную важнасць, як Іспанія і Беларусь (у гэтым, паверце, народы вельмі падобныя), людзі гравітуюць да індывідуалізму. Ёсць тэндэнцыя на высокі ўзровень незалежнасці, на больш павярхоўныя адносіны між сваякамі, на тое, што дзеці пераязджаюць штораз далей (унутраная і міжнародная эміграцыя – таксама супольны пункт між нашымі краінамі, хай і яе прычыны бываюць самымі адрознымі).

Гэта, з аднаго боку, натуральна і няблага: людзі адчуваюць большую свабоду і жывуць сваім сапраўдным жыццём – так, як яны хочуць. Затое варта памятаць пра дзядуль і бабуль, пра састарэлых бацькоў (дзядзькоў, цётак) і пра тое, наколькі цяжка жыць у поўнай самоце. Заўжды сумна, калі знаходзяць цела пенсіянера дома праз пару нават тыдняў, бо ніхто асабліва не наведваў і не тэлефанаваў...

Гэта праблема, супраць якой мусім змагацца, мабыць, разам. Кожнае жыццё мае высокую вартасць, і пенсіянеры яшчэ шмат чаму нас навучаць.



Ісабэль, 88-гадовая бабуля Анхелы па кудзелі, даглядае кветкі.



Анхела ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
магістр філалогіі
angeespi@ucm.es

# Два праспекты, ЦЭЦ, шматпавярхоўкі і тралейбус

## Якой была б Вілейка, калі б атрымалася спраўдзіць усе планы будаўніцтва

ВІЛЕЙКА

**Жыхаром Вілейкі ўраджэнец Віцебшчыны Анатоль Додрыкаў стаў у 1969 годзе.**



У Вілейцы Анатоля Додрыкава ведаюць, як стваральніка духавых аркестраў. На фота з архіва героя – Анатоль Додрыкаў з духавы аркестрам маракоў з вайсковай часці ў Шылавічах.

А першая сустрэча з горадам адбылася раней – у 1964.

– Памятаю гарадок, у якім шмат яшчэ засталося ад часу, калі Вілейка была ў складзе Польшчы.

> **Калі глядзець на горад з вышыні, адразу заўважалася, як акуратна будавалі палякі. Кварталы – у выглядзе роўных квадрацікаў, – дзеліцца суразмоўца сваімі ўражаннямі.**

### Ад рабочага да начальніка змены

На сёння з Вілейкай у Анатоля Ягоравіча звязана шмат. Тут ад 1969 года ён пачаў працаваць на рамонтным заводзе – на тыя часы буйным прадпрыемстве.

У 1960-70-х тут выпускалі некалькі дзясяткаў найменняў: дамы-вагончыкі, кузавы. Забяспечвалі калгасы прыладамі для апрацоўкі глебы – транспарцёрамі, сеялкамі.

На завод Анатоль Додрыкаў прыйшоў рабочым. Пасля быў майстрам, тэхнолагам, начальнікам змены.

### Калі жаночы аркестр выходзіў на вуліцу – людзі апладзіравалі

У 1974 годзе з жанчын-супрацоўніц завода стварыў жаночы духавы аркестр. Калі калектыў выходзіў на вуліцы Вілейкі, то гараджане апладзіравалі і ўсміхаліся.

> **Духавыя калектывы мой суразмоўца стварыў і ў вілейскім ПТВ-48, і ў вайсковай часці ў Шылавічах.**

– Музыкантаў рыхтаваў з нуля. За тры месяцы мог выставіць калектыў для выступлення, – дзеліцца Анатоль Додрыкаў.

Сам ён іграць на музычных інструментах пачаў у дзяцінстве ў родным Дуброўне. Пазней, калі ўжо жыў у Вілейцы, завочна скончыў універсітэт у Маскве па спецыяльнасці «кіраўнік змешанага аркестра».

### А Вілейка магла б быць іншай

Працуючы на рамонтным заводзе, дзе дырэктарам быў яго сваяк **Леанід Вольскі**, Анатоль Додрыкаў назіраў, як планавалі памяняць горад, калі будавалі завод «Зеніт». Добра памятае тыя часы, калі на месцы завода было балота, зарослае хмызняком.

Згодна з планамі 1970-х гадоў, у Вілейцы на месцы сённяшняй вуліцы Незалежнасці павінна была паўстаць ЦЭЦ, а вакол яе – жылы мікраён для супрацоўнікаў «Зеніта». Планавалі, што з дома на работу і назад рабочыя будуць ездзіць на тралейбусе.

> **А вуліцы Чапаева і Стаханаўская павінны былі стаць праспектамі.**

Але з задуманага ўвасобілі мала.

– Тады Вілейшчынай кіраваў **Іван Трус**. Чалавек, які хварэў за горад. Але ж яму і іншым прадстаўнікам тагачаснай мясцовай улады хацелася зрабіць усё як мага хутчэй і танней. Магчыма, таму не ўсё атрымалася, – мяркуе Анатоль Ягоравіч. – Толькі дарма парушылі польскую даваенную забудову – тыя самыя акуратныя квадрацікі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

# Жыхар Вілейкі прыгадаў, як 20 год таму гуляў на «Полі цудаў»

ВІЛЕЙКА

**27 жніўня 1999 года. Па тэлебачанні – эфір праграмы «Поле цудаў». Вядучы Леанід Якубовіч абʼяўляе другую тройку гульцоў.**

Уладзімір Агапітаў з горада Савецка, Наталля Мяшчэрына з Ніжняга Ноўгарада і **Анатоль Додрыкаў** з Вілейкі.

Фотаздымкаў з той гульні ў Анатоля Ягоравіча не засталося. Толькі – уражанні і ўспаміны, якімі ён падзяліўся з карэспандэнтам «Рэгіянальнай газеты».

### Як трапіў на праграму

У 1999 мой суразмоўца працаваў галоўным інжынерам у ЖКГ. А яшчэ ў Вілейцы Анатоля Додрыкава ведалі як стваральніка і арганізатара духавых аркестраў у горадзе. У тым ліку – першага жаночага ў 1974 годзе.

Часам віляйчанін пісаў артыкулы для мясцовай прэсы, часам прэса пісала пра яго. У красавіку 1999 года журналістка з Вілейкі **Наталля Валынец** сабрала ўсе гэтыя матэрыялы і адаслала іх на «Поле цудаў».

У маі Анатолю Ягоравічу патэлефанавалі і запрасілі на здымкі. У Маскву паехаў у чэрвені. А ў канцы жніўня паказалі запіс гульні па тэлебачанні.

### Падарыў Якубовічу кніжку пра Вілейку

– Хадзіў на экскурсію ў музей «Поля цудаў», дзе захоўваюцца падарункі, што прывозяць гульцы. Шмат шкляных шафаў. А ў іх – розныя сувеніры. Найбольш бутэлек незвычайнай формы, – прыгадвае Анатоль Додрыкаў.

Гулец з Вілейкі таксама ехаў з падарункам для праграмы. Прывёз кніжку пра свой горад.

– Заданне для нашай тройкі гучала прыблізна так: калі гэта вырастала ў чалавека вялікім, у Расіі яго вызвалялі ад працы, – прыгадвае суразмоўца.

Адказ на пытанне віляйчанін ведаў, але думаў пра слова ў множным ліку – «пазногці». А адказ быў у адзіночным – «пазногаць». У выніку ў той тройцы перамагла Наталля з Ніжняга Ноўгарада.

### Чаму гульцы з тэлевізара часам выглядаюць неразумнымі

– Напэўна, многія глядзяць «Поле цудаў» па тэлевізары і думаюць, якія неразумныя людзі там гуляюць. А насамрэч, гуляць не так лёгка. Здымкі доўжыліся дзве з паловай гадзіны.

З усіх бакоў – святло сафітаў у твар. Нават кроплі поту з ілба нельга было выціраць самому. Гэта рабілі грымёры. Не дзіўна, што ў такіх умовах губляешся, – падсумаваў Анатоль Ягоравіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ФУТБОЛ

## «Смаргонь» згуляла па нулях з «Белшынай»

Пасля перамогі ў мінулым туры смаргонская каманда сустрэлася з «Белшынай». 90 хвілін матча падарылі камандзе з Гродзенскай вобласці нічыю – 0:0 – і патрэбныя ачкі для турнірнай табліцы.

Смаргонцы займаюць 13 месца, пакінуўшы ззаду «Слонім-2017» і «Баранавічы».

## «Энергетык» буйна саступіў «Маладзечну»

Маладзечанцы працягваюць перамагаць. У гэтыя выхадныя бел-зялёныя ў гасцях адолелі энергетыкаў з буйной колькасцю галоў – 1:9. **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк** зрабіў дубль. **Сяргей Корсак** аформіў хет-трык. **Мікіта Дудо, Дзмітры Івановіч, Сяргей Крот** рэалізавалі па адным голе.

## «Андэрдог» перамог «Узду»

«Андэрдог» зарабіў таксама буйную перамогу на выездзе. Футбалісты «Узды» забілі толькі адзін гол, а чысцінцы ў адказ прынеслі ў вароты сапернікаў шэсць. **Аляксандр Кротаў** аформіў дубль. Галамі адзначыліся **Яўген Бяляўскі, Мікіта Мятліцкі, Максім Чыжэўскі, Аляксандр Халадзінскі**.

● БАСКЕТБОЛ

## Смаргонскія і маладзечанскія баскетбалісты занялі прызавыя месцы на турніры па стрытболе

Спаборніцтвы прайшлі ў суботу, 24 жніўня, у САК «Алімпійскі» ў рамках праграмы ФІБА-Еўропа «Сучасная баскетбольная плынь. Крок у будучыню». Удзельнічалі ў турніры каманды са Смаргоні, Ліды, Гродна, Пухавічаў, Лагойска, Барысава, Маладзечна, Салігорска і Мінска. У спаборніцтвах было па восем камандаў у юнакоў і дзяўчат. Узроставая катэгорыя да 13 год.

Каманда «Смаргонь-2» заняла першае месца сярод дзяўчат, а «Смаргонь-1» узяла срэбраныя медалі. Маладзечанскія хлопцы занялі трэцяе месца ў сваёй катэгорыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Убачыў упершыню і адразу загарэўся

## Маладзечанцы распавядаюць пра першы аўтабой

**У суботу, 24 жніўня, у Мінскім раёне прайшлі спаборніцтвы па аўтабаях. Каманда «Гараж Маладзечна» ўдзельнічала ў турніры.**




Фота Насассі УТКІНАЙ.

Станіслаў Шафран на фоне «Акулы» праз некалькі дзён пасля спаборніцтваў.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Каманда «Гараж Маладзечна» на спаборніцтвах «Бітва машын 6».

Прызавых месцаў маладзечанцы не занялі. «Рэгіянальная газета» паразмаўляла з механікамі аўтакалектыву пра тое, як падрыхтаваць машыну да турніру і чаму трэба развіваць аўтаспорт.

### «Мы ўдзельнічалі першы раз у баях»

– Гэта першы раз. У наступны ўжо будзем ведаць, чаго чакаць, – дзеліцца механік-зваршчык каманды **Міхаіл Крот**.

Каманда «Гараж Маладзечна» правяла адзін бой, па выніках якога не змагла прэтэндаваць на прызавыя месцы. Аднак гэта быў добры досвед, кажа Крот. Яго думку падтрымлівае і **Станіслаў Шафран**.

– Мы зразумелі, дзе памыліліся ў першым баі, які для нас аказаўся апошнім. Пілот **Паша Максімовіч** быў добры, а вось мы як механікі павінны былі звярнуць увагу на ланжэроны. Гэта тэхнічныя тонкасці, – распавядае галоўны механік Станіслаў Шафран.

> Ланжэрон – аснова канструкцыі большасці легкавых аўтамабіляў.

### Далі машыне мянушку «Акула»

Машыну назвалі «Акулай», таму што арыгінальнае аўто «БМВ Е28» – механікі рабілі транспарт на аснове яго, у народзе празвалі менавіта так. **Наталля Ялымава** і **Кацярына Ясунас** дапамаглі «Акуле» выглядаць як гэта драпежная рыба. Аднак суровы і грозны выгляд машыны не дапамог маладзечанскаму пілоту.

Арганізатары адзначалі, што маладзечанская «Акула» была магутным праектам. У Шафрана і Крата ёсць тлумачэнне на гэта: справа ў якаснай падрыхтоўцы і невідавочных рашэннях. Напрыклад, механікі здолелі прыстасаваць да «БМВ» задні мост ад «Волгі». Удзельнікі аўтабаёў у Мінскім раёне лічылі, што гэта нерэальна, а маладзечанцы распрацавалі і такую тэхналогію.

Крот кажа, што цяпер усе думкі, як зрабіць машыну іначай – канкурэнтаздольнай і больш магутнай.

### Тры месяцы і 500 рублёў, каб падрыхтаваць машыну

«Акула» стала «Акулай» за тры месяцы. Механікі пачалі рыхтаваць машыну на пачатку ліпеня. Крот тлумачыць, што аўто можна было б зрабіць і хутчэй, але асноўная праца хлопцаў-механікаў забірала шмат часу.

Машына да баёў не павінна была мець нічога лішняга: шкла, крэслаў (акрамя месца для кіроўцы) – увогуле, выглядаць пустой. У багажніку і капоце адмыслова рабілі дзіркі, каб судзейская камісія магла агледзець і атэставаць аўтамабіль. Асаблівая ўвага надавалася месцу кіроўцы і яго бяспецы.

Падрыхтоўка «Акулы» каштавала каля 500 рублёў:

- 120 рублёў – рухавік + кпп;
- 80 рублёў – задні мост + 4 колы + кардан;
- 3 × 30 руб. – зварачны дрот, 3 × 15 руб. – зварачныя электроды;
- прыкладна 85 рублёў – запчасткі для рухавіка і счаплення, дыскі;
- 25 рублёў – вуглекіслата для зварачнага паўаўтамата.

А само аўто каштавала 200 рублёў.

– Сума атрымліваецца з вялікіх выдаткаў. Нам дапамагалі людзі, давалі бясплатна трубы для каркаса бяспекі, радыятар ахаладжвання і шмат рознай дробязі са сваіх запасаў, – тлумачыць Шафран.

### «Арандаваць зямлю – дзвесце тысяч рублёў»

Станіслаў Шафран лічыць, што аўтаспорт трэба развіваць у Беларусі. Гэта добрая глеба не толькі для здаровага ладу жыцця, але і прыбытак для мясцовых уладаў. Механік «Гаража» адзначае, што зрабіць пляцоўку для аўтабаёў рэальна ў Маладзечне ці паблізу горада. Аднак каб арандаваць зямлю ў дзяржавы, прыйдзецца заплаціць шмат грошай.

– Арэнда зямлі ў межах горада на дзесяць гадоў абыдзецца прыкладна ў 200 тысяч рублёў. Гэта вялікая сума, якой у мяне няма. Я ж працую кіроўцам «хуткай», – кажа Шафран.

Іншы варыянт – шукаць пляцоўку па-за межамі Маладзечна. Станіслаў упэўнены, што аўтаспорт будзе развівацца ў краіне, але цяпер ён знаходзіцца на пачатковым этапе.

Наступныя спаборніцтвы для каманды «Гараж Маладзечна» пройдуць у маі 2020 года.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Напой з вінаграднага віна з настоямі з травы.
4. Той, хто ўдзельнічае ў гутарцы.
5. Гэты транспарт выпускаюць на МТЗ з 1950 года.
9. Вялікая драпежная змяя трапічных і субтрапічных краін.
10. Вялікі князь Літоўскі, герой «Песні пра Зубра» і бітвы пад Грунвальдам.
13. Свяшчэнная кніга мусульман.
15. Першае або пробнае выступленне.
19. Айчына, родная краіна.
21. Асобны здымак.
22. Дзявяты месяц каляндарнага года.
23. Усходнеславянскі народ, суседнічае з пяццю краінамі.
24. Навучальнае паўгоддзе ў вышэйшых ці спецыяльных сярэдніх навучальных установах.
26. Персаніфікацыя смерці ў выглядзе нейкай фізічнай сутнасці. У еўрапейскай (і, у прыватнасці, славянскай) культуры смерць часта малюецца ў выглядзе шкілета з касой.
27. Максімальнае значэнне зрушэння або змены зменнай велічыні ад сярэдняга значэння пры вагальным або хвалевым руху.
30. Сталіца краіны, прэзідэнт якой Нікалас Мадура.
32. Знак задыяка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адзінка адміністрацыйнага дзялення.
3. Недарэчнае, безумоўнае прытрымліванне перакананняў з абавязковым навязваннем свайго пункту гледжання іншым.
6. Трушчобы ў гарадах Бразіліі, часта размешчаныя на схілах гор.
7. Самы старажытны горад Беларусі.
8. Прадмет мэблі, на якой сядзяць.
11. Пагадненне, звычайна пісьмовае, аб узаемных абавязацельствах.
12. Беларускі пісьменнік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Нарадзіўся ў вёсцы Бычкі.
14. Прадзільна-ткацкія вырабы.
15. Настольная гульня.
16. Прамысловая рыба паўночных мораў.
17. Прыстасаванне (звычайна з дрэва) для прывядзення ў выкананне смяротнага пакарання.
18. Бізнес-панянцце, якое апісвае практычна любую камерцыйную дзейнасць.
20. Напорыстае імкненне да ажыццяўлення чаго-небудзь.
23. Сварка, якая суправаджаецца ўзаемным збіццём.
25. У матэматыцы: прамая, якая дзеліць вугал папалам.
28. Там нарадзілася баскетбалістка Юлія Дурэйка.
29. Пераносная гукавая прылада.
31. Частка, выдзеленая з якога-небудзь твора.
33. Абрыс чаго-небудзь, які нагадвае па форме яйка ў падоўжным разрэзе.
34. У спартыўных гульнях: перадача мяча партнёру.

## Адказы на крыжаванку з №34

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Махачкала. 3. Польшча. 4. Сакавіца. 5. Рымдзюны. 8. Хвароба. 13. Нота. 14. Аэробіка. 15. Маўчанне. 17. Навіна. 18. Партал. 20. Юшка. 21. Калодзеж. 22. Ерэтык. 27. Каханне. 28. Карэц. 30. Спакой. 31. Лыжка. 33. Кунцэвіч. 36. Дэтэктыў. 38. Серпантын.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Асёл. 6. Авіяцыя. 7. Дынама. 9. Пасажыр. 10. Перавага. 11. Серада. 12. Сняданак. 16. Аборт. 19. Маладзечна. 21. Клінок. 23. Колба. 24. Загад. 25. Юнак. 26. Шляхта. 27. Канфлікт. 29. Фінал. 32. Проса. 33. Калена. 34. Жыццё. 35. Веды. 37. Інстытут.

## ● ГАРАСКОП НА 30 ЖНІЎНЯ – 5 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** У пачатку тыдня наўрад ці ўдасца пазбегнуць хваляванняў. Праблемы часцей за ўсё ўзнікаюць з-за нядбайнасці знаёмых, але вырашаць іх прыходзіцца менавіта вам. Трымайце эмоцыі пад кантролем і дзейнічайце.



**ЦЯЛЕЦ.** Удалым будзе пачатак тыдня. У гэты час у вас многае атрымаецца добра. Галоўнае – не баяцца эксперыментаваць, парушаць традыцыі, калі гэтага патрабуе сітуацыя, дзейнічаць на свой страх і рызыку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Лепш устрымацца ад незапланаваных пакупак, яны наўрад ці будуць удалымі. У вырашэнні любых фінансавых пытанняў спешка недапушчальная. Вы схільныя некалькі легкадумна ставіцца да грошай і верыць у тое, што хочацца, забываючы аб разумным сэнсе.



**РАК.** Хоць усё складваецца нядрэнна, тое, што адбываецца, не вельмі падабаецца. Хочацца хутка завяваць вяршыні і атрымаць важныя перамогі, а давадзіцца цярпліва вырашаць дробныя праблемы. Падставы для радасці таксама будуць: добрыя навіны і прываблівыя прапановы.



**ЛЕЎ.** Пачатак тыдня не вельмі ўдалы. Цяжка вырашыць, за што брацца ў першую чаргу. Патроху сітуацыя мяняецца да лепшага, але шмат што залежыць ад таго, наколькі вы ўважлівыя і асцярожныя.



**ДЗЕВЫ.** Першая палова тыдня спрыяльная. Гэта зручны час для таго, каб вярнуцца да спраў, якія доўга даводзілася адкладаць. Пазней наступіць больш напружаны час. Прыйдзецца займацца тым, што вам не па душы, мець справу з непрыемнымі людзьмі.



**ШАЛІ.** Спрыяльны дзень для працы і вучобы. Вы добра спраўляецеся з рашэннем складаных задач, робіце правільна там, дзе іншыя, напэўна, маглі б памыліцца. Будзе магчымасць пагаварыць з людзьмі, чые досвед і веды вам спатрэбяцца.



**СКАРПІЁН.** Пачатак тыдня добры, лепш нічога не адкладаць на потым. У другой палове тыдня трэба будзе засяродзіцца на сямейных справах, дапамагчы блізкім у вырашэнні назапашаных праблем.



**СТРАЛЕЦ.** У пачатку тыдня часцей, чым звычайна, узнікаюць рознагалоссі і спрэчкі. Вы не заўсёды прыслухоўваецеся да добрых парадаў. Лепш не абмяркоўваць важныя пытанні, паколькі ўсё можа скончыцца сваркай.



**КАЗЯРОГ.** Не самы лёгкі, але цалкам плённы тыдзень. Ужо ў першай яго палове вы зразумееце, што дасягнуць пастаўленых мэтаў не так проста. Тыдзень падыходзіць для спакойнага адпачынку, а таксама невялікіх паездак.



**ВАДАЛЕЙ.** Паспрабуйце ні з кім не пасварыцца ў першай палове тыдня. Канфлікт можа ўспыхнуць з-за дробязі. Не ўсім вам удасца захаваць спакой, не паддацца на правакацыі. Асабліва рызыкуюць юныя прадстаўнікі знака.



**РЫБЫ.** Спакойны тыдзень. Ён не прынясе нейкіх важных падзей. Вы зможаце завяршыць тое, што пачалі раней. Будзе магчымасць пагутарыць з людзьмі, якіх вы даўно не бачылі. Не выключана, што вам прапануюць нешта цікавае.

**Васіліна КІРАВА.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | 1 | 8 | | 5 | | |
| | | 5 | | | 7 | 9 | | |
| 3 | | | | 4 | | 7 | | 8 |
| 4 | 6 | | | | 3 | | | 7 |
| | | | | 2 | 6 | | 9 | 4 |
| 7 | | | | 1 | | 6 | | 2 |
| | 8 | | | | | 2 | | |
| 1 | | | | | 2 | | 3 | |
| | 5 | | | 9 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by





Фота Таццяны ТКАЧОВАЙ.

Валожынка Вера Зянько.

## 92-гадовая жыхарка Валожына трапіла на старонкі The Guardian

ВАЛОЖЫН

**Праект «Сезоны Веры» стварыла фатограф з Мінска Таццяна Ткачова.**

У 2017 годзе, калі ў складзе групы журналістаў Таццяна трапіла на медыяпалігон у Валожын, яна пазнаёмілася са сваёй гераіняй, мясцовай жыхаркай Верай Зянько.

Таццяна некалькі разоў прыязджала ў Валожын да Веры і фатаграфавала жанчыну ў шматлікіх уборах з яе шафы ў інтэр'еры кватэры.

На апошнім фотаздымку ў праекце – убор, які Вера Зянько падрыхтавала сабе на смерць.

**Аддзел інфармацыі.**

## Як праходзяць акцыі ДАІ на Маладзечаншчыне

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзве акцыі ДАІ праходзяць у гэтыя дні ў Маладзечанскім раёне – «Увага! Дзеці!» і «Маленькі пасажыр – вялікая адказнасць».**

Як расказаў карэспандэнту інспектар ДАІ **Сяргей Бартош**, за два дні, 25 і 26 жніўня, 48 кіроўцаў спынілі за тое, што яны ехалі без уключаных фар.

У рамках акцыі «Маленькі пасажыр – вялікая адказнасць» выявілі сем фактаў, калі дзяцей перавозілі няправільна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Як вы ставіцеся да школьнай формы?



**Наталля Шчарбіцкая, інспектар па кадрах, Мядзел:**

– Гэта важна і абавязкова трэба.



**Таццяна Андрыловіч, гаспадыня, Кракоўка, Ашмянскі раён:**

– Яна дысцыплінуе, выключае магчымасць канкурэнцыі паміж вучнямі ў вопратцы, значна зніжае візуальную розніцу паміж вучнямі з сем'яў рознага дастатку, перашкаджаючы расслаенню па прынцыпе «багатыя – бедныя».



**Кацярына Клімовіч, настаўніца, Мядзел:**

– Я лічу, што школьная форма патрэбная. Я была б не супраць, каб дзеці мелі аднолькавую форму.



**Алеся Фясько, эканаміст, Маладзечна:**

– Ёсць меркаванне, што яна дысцыплінуе дзяцей, але не – перашкаджае. Калі б яе трохі ўдасканалілі! Я не любіла надзяваць пінжак, бо ў ім была падобная на пудзіла. А яшчэ трэба вырашыць пытанне з класічнымі штанамі. Думаю, тады б дзеці з радасцю надзявалі б форму, у іх з'явіўся б настрой і шмат сіл на вучобу.



**Аляксандр Кавалёў, юрыст, Маладзечна:**

– Станоўча стаўлюся. Такім чынам дзецям прышчапляюць афіцыйна-дзелавы стыль, які ім у іх далейшым жыцці спатрэбіцца.



**Ігнат Данько, студэнт, Маладзечна:**

– Школьную форму трэба надзяваць на святы ў навучальнай установе ці тады, калі гэта неабходна, як на Захадзе. А на кожны дзень не трэба, таму што яна страчвае сваё значэнне, святочны настрой. А яшчэ гэта непрактычна, нават нязручна. Вучань павінны думаць перш за ўсё пра веды.



**Юлія Сіцько, работнік чыгункі, Маладзечна:**

– Стаўлюся станоўча. Усе павінны быць роўнымі і не вылучацца. Лічу, што правільна прышчапляць дзецям з дзяцінства, што ў грамадстве ўсе роўныя. Сама ў школе не любіла насіць форму. Гэта з узростам прыходзіць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Гвалт у сям'і – праблема, з якой многія застаюцца за зачыненымі дзвярыма. Як абараніць сябе і сваіх блізкіх ад дамашняга агрэсара? Хто гатовы дапамагчы ў такой сітуацыі? А самае галоўнае – чаму нельга заставацца ў сітуацыі дамашняга гвалту, тлумачаць эксперты.**

## 31 жніўня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 2-3 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +4,4°С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +32,1°С у 1992 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,5 мм у 2006 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Ідзі да ведаў з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем лiтару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 50 капеек;
- на тры месяцы – 13 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;
- на тры месяцы – 40 рублёў 50 капеек.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№35 (1270) 30.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1382. Падпісана ў друк у 9.00 29.08.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.